*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**№ 82 (1147)**
Аўторак, 8 мая 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць. Вецер паўночна-ўсходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, — +13...+15, Магілёве — +14...+16, Мінску, Гродне — +15...+17, Брэсце, Гомелі — +16...+18.

У наступныя двое сутак — пераважна без ападкаў, толькі ўдзень 10-га мая месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер паўночны, 3—8 м/с. Тэмпература ўначы — +1...+6, 9-га на большай частцы тэрыторыі, 10-га месцамі замаразкі да 0...-2, на тарфяніках Палесся на глебе да -3...-5. Тэмпература ўдзень — +13...+18.



# З ДНЁМ ПЕРАМОГІ!

## Успомнім усіх пайменна...

Сёння я хачу праз вашу газету горача і сардэчна павіншаваць з Днём Перамогі сваіх аднапалчан, якія ў грозныя гады змагаліся з чорнай навалай і адолелі яе. Цяпер яны жывуць у розных кутках Беларусі і Расіі. Я іх усіх помню, люблю і жадаю гвардзейскага здароўя, дабрабыту і доўгіх год жыцця сярод родных і блізкіх людзей. Яны заслужылі самай лепшай долі.

Адрасую свае віншаванні:

ЗЛЫДЗЕНКУ Аляксандру Паўлавічу і КРЫВІЧУ Васілю Васільевічу (г.Гомель); ПІКУЛЮ Мікалаю Піліпавічу (г.Мінск); АНДРЭЕНКУ Міхаілу Іванавічу (г.п. Брагін); САЧКУ Пятру Усцінавічу, ЗДОРУ Івану Мікалаевічу і ГРУШЭНКУ Аляксандру Якаўлевічу (в.Конанаўшчына Брагінскага раёна); СІЛАНЦАВУ Мікалаю Аляксандравічу (г.Смаленск); САМАРОДАВУ Аляксею Іванавічу (г.Адэса).

Разам з гэтым нізка схіляю галаву перад памяццю баявых сяброў, хто загінуў у цяжкай барацьбе з захопнікамі.

Гэта ГУЛЯЙ Сямён Макаравіч (в.Амелькаўшчныа Хойніцкага раёна); ГАНЧАР Іван Фаміч (в.Мікулічы Брагінскага раёна); ЦЯРЭШКА Сямён Іванавіч (в.Кавака Брагінскага раёна); МАКАРЭНКА Даніла Кірылавіч (в.Конанаўшчына Брагінскага раёна).

А ці ж можна ў такую хвіліну забыць дарагіх родзічаў — бацьку Шубянка Аўдзея Сцяпанавіча і родных маіх братоў Рыгора і Пятра з вёскі Міхнаўка Брагінскага раёна, таксама загінуўшых за родную Беларусь?

Вечная ім слава і царства нябеснае...

...Дарагой цаной здабылі мы Перамогу. Змагаліся недарэмна. Нямеччына стала мірнай, дэмакратычнай дзяржавай і збудавала для сваіх грамадзян заможнае жыццё. Нават з намі паспрабавала падзяліцца — гуманітарную дапамогу пасылае. Але нашы кіруючыя колы чамусьці спалохаліся і сказалі: "Не пушчаць!" Можа, у іх ёсць упэўненасць, што ў хуткім часе і мы, пераможцы, будзем жыць не горш за пераможаных?

На жаль, нішто не паказвае на гэта... Але я веру ў лепшы заўтрашні дзень. І, успамінаючы пайменна ўсіх, хто набліжаў Перамогу, спадзяюся, што нашы дзеці і ўнукі зробяць усё, каб і родная Беларусь была шчаслівай.

**Аляксандр Аўдзеевіч ШУБЯНОК,**
**інвалід Вялікай Айчыннай вайны, жыхар в.Конанаўшчына Брагінскага раёна.**

## Не хадзіце каля Кастрычніцкай плошчы

Жыхары Мінска Сяргей Папкоў і Валерый Буйвал, якія накіравалі ў гарвыканкам заяўку на правядзенне ў Мінску 18 мая сходу грамадзян, папярэджаны пра магчымыя негатыўныя для іх наступствы.

Заяўка ў гарвыканкам была накіравана 2 мая. Яе аўтары, актывісты Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ, прасілі даць дазвол на правядзенне 18 мая з 8 гадзін раніцы да 8 вечара на Кастрычніцкай плошчы сходу грамадзян з колькасцю ўдзельнікаў да 5 тысяч. Мэта сходу, як вынікае з заяўкі, — давесці да міжнароднай грамадскасці наступнае: "грамадзяне Беларусі не прызнаюць ніякай "саюзнай дзяржавы" і "ў адпаведнасці з Канстытуцыяй будуць абараняць незалежнасць краіны"; "грамадзяне Беларусі не прызнаюць змены Канстытуцыі краіны незаконнымі метадамі". Пры гэтым аўтары заяўкі прасілі гарвыканкам не прапаноўваць для правядзення сходу лесапаркавую зону, ускраіну горада і іншыя падобныя месцы, паколькі плануемае мерапрыемства "мае агульнадзяржаўнае значэнне".

Як паведаміла прэс-служба Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ, 4 мая заяўнікі былі выкліканы ў аддзел па сувязях з грамадскасцю ГУУС Мінгарвыканкама. Ад імя кіраўніцтва ГУУС ім было перададзена: усе, хто 18 мая прыйдзе на Кастрычніцкую плошчу для ўдзелу ў сходзе, будуць затрымлівацца. Акрамя таго, калі арганізатары не адмовяцца ад заяўленага мерапрыемства, будуць узбуджаны справы па акцыях, што прайшлі 26 красавіка на праспекце Ф.Скарыны (адной з іх, як вядома, было шэсце ад плошчы Незалежнасці да ГУМа, арганізаванае прадстаўнікамі КХП-БНФ; тады ніхто з удзельнікаў і арганізатараў не быў затрыманы).

У адказ на гэтыя папярэджанні заяўнікі акцыі заўважылі, што беларуская Канстытуцыя не забараняе грамадзянам хадзіць у раёне Кастрычніцкай плошчы. Тым не менш ад канчатковага рашэння яны ўстрымаліся да атрымання афіцыйнага адказу гарвыканкама.

Трэба адзначыць, што 18 мая ў Палацы Рэспублікі, які размешчаны якраз на Кастрычніцкай плошчы, будзе праходзіць другі Усебеларускі народны сход, ініцыіруемы ўладамі.

**Наталля КУЛАГІНА.**

**ПРЕДЛАГАЮ**

## Задача №1 – заменить только Лукашенко

Единому кандидату в президенты следует убедить людей прежде всего не в том, что перед собой он ставит цель привести к власти демократические или оппозиционные силы и людей, находящихся теперь у власти и назначенных президентом, поснимать с работы, а в том, что основной и единственной его задачей является замена только **одного человека — президента**, притом замена по закону, согласно Конституции РБ. И если руководители всех уровней "вертикали", а также предприятий и организаций поверят в незыблемость своего положения после выборов, только тогда можно рассчитывать на успех. Не сработает инстинкт самосохранения людей у власти, естественный при другом раскладе. Не будет необходимости руководителям всех районов вмешиваться в избирательный процесс, в состав и работу избирательных комиссий, идти на фальсификацию выборов. Тогда можно убедить и пенсионеров в том, что вся власть на местах останется прежней и им нечего опасаться за размеры пенсий и, главное, за сроки их выплаты.

Необходимо, чтобы все поняли, что происходит естественный, законный процесс смены именно президента, а не всей номенклатуры. Такие заявления и действия, на мой взгляд, ослабят раскол в обществе. Иначе многие не поймут ни одного кандидата от демократических сил и им придется держаться теперешнего, хотя, как он сам заявил: "Я вам всем изрядно надоел". А ведь истину говорил.

**Иван АРСЕНЬЕВ.**
Поставский район.

**СКАНДАЛ**

## Бей барабан. До конца...

**Владимир ДОВЖЕНКО**

В №78 за апрель мы публиковали интервью "Мне все по барабану" со спортивным журналистом БТ Алексеем Довалем, в котором он поделился своими мыслями о положении дел на телевидении, стиле и методе работы нового руководства, затронул вопросы профессионализма, этики и права.

И вот через несколько дней неожиданный звонок в редакцию. Алексей Доваль избит, задержан и в наручниках отправлен в РОВД Первомайского района г.Минска прямо с места своей работы по улице Макаёнка, 9. Мотив задержания — был пьян. Официальные документы этого не подтверждают.

*Подробности читайте на 2-й странице.*



*Васіль Быкаў. Франтавік, пісьменнік, грамадзянін.*

**СОБЫТИЕ**

## Вручены премии имени Анатолия Майсени







Память... Об Анатолии Майсене, известном политике и талантливейшем публицисте, трагически погибшем в 1996 году, она со временем становится острее. Как жаль, что так рано оборвалась его жизнь. Как нужно его слово сегодня!

В память об Анатолии Майсене "Народной волей" и "Белорусской ассоциацией журналистов" ежегодно проводится специальный творческий конкурс. Как уже сообщалось, по итогам прошлого года лауреатами премии имени Анатолия Майсени стали Виктор Дашук, Владимир Глод и Марина Коктыш.

На днях состоялось торжественное вручение премий имени известного политика и публициста. В кабинете главного редактора "Народной воли", кроме номинантов, присутствовали работники газеты, жена Анатолия Майсени Лада, сестра Людмила и 10-летняя дочь Настя. Очаровательная Настя порадовала всех своим стихотворением. Известному режиссеру Виктору Дашуку премию пришлось вручать прямо в больнице, где накануне он перенес операцию.

## Один час с Юрием Захаренко

Ровно два года нет вестей о бывшем министре внутренних дел Юрии Захаренко. Накануне печальной даты к его матери Ульяне Григорьевне съездили Василий Шлындиков, Павел Козловский, Людмила Карпенко, Олег Волчек, Владимир Кормилкин, корреспонденты Радио "Свобода" и "Народной воли".

Сказать, что Ульяна Григорьевна была рада гостям — это ничего не сказать. Как всегда, напекла своих вкуснейших украинских пирогов, приготовила настоящего украинского холодца. Посидели, подняли рюмку за МИНИСТРА, за ЧЕЛОВЕКА.

Фотограф Владимир Кормилкин привез часовой фильм, в котором он собрал эпизоды из жизни Юрия Захаренко, его выступления на пресс-конференциях, митингах, кадры, снятые в домашней обстановке. Целый час сидели полукругом и молча смотрели. Один час он был с нами. Пока только один час.

Отвлекитесь на день, господа из органов власти и Министерства внутренних дел, от важных государственных дел и позвоните матери Юрия Захаренко Ульяне Григорьевне. Съездите в Василевичи, где она живет. Посмотрите ей в глаза. И вам все станет ясно.

2 года. 730 дней. 17 520 часов. 1 051 200 минут. Без сына.

**Александр СИЛИЧ.**
Гомельская область.

# ВАЙНА

**Валянцін ТАРАС,**
**пісьменнік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны**

"Ніхто не забыты, нішто не забылася" — пяць з паловай дзесяцігоддзяў гэта гучыць як клятва жывых над магіламі палеглых у змаганні за Бацькаўшчыну на палёх Вялікай Айчыннай вайны, над магіламі закатаваных у лагерах смерці, над прахам усіх нашых Хатыняў. Простая і суровая формула агульнанароднай Памяці. Але ёсць яшчэ і індывідуальная памяць, а яна ў розных людзей таксама розная — і сумленная, і крывадушная, і самастойная, і запазычаная, сфарміраваная ўсялякімі міфамі, прапагандысцкім "прамываннем мазгоў". Каб чалавек помніў толькі тое, што трэба ўладзе.

Кожны год, адзначаючы чарговыя ўгодкі Перамогі, эксплуатуюць на ўсё катушку менавіта тую памяць, якая патрабуецца тым, хто стаіць на трыбуне параду. Памяць афіцыйную, праверaную і зацверджаную "наверсе". І крывадушную таксама, калі пра вайну згадваецца праўда, аднак не ўся, калі замоўчваецца нібыта другараднае, нібыта нетыповае, тое, што пазначана ярлыком "дэгераізацыі". Гэта з аднаго боку. З другога — робяцца спробы наогул скінуць Вялікую Айчынную вайну з высокага пастаменту гісторыі, спробы ахарактарызаваць гэту вайну як вайну паміж двума фюрэрамі, чырвоным і карычневым, і толькі. Што ёсць альбо недасведчанасць, гістарычнае невуцтва, альбо кан'юнктурная палітычная спекуляцыя.

Наўрад ці маюць рацыю і тыя, хто лічыць, што гітлераўская акупацыя была для Беларусі меншым злом, чым сталінскі рэжым, і на гэтай падставе цалкам апраўдваюць тых, хто пайшоў на актыўнае супрацоўніцтва з акупантамі, нават паліцаяў, якіх той-сёй пачынае называць "жаўнерамі беларускай паліцыі", "змагарамі з бальшавізмам". Аднак народ у гады акупацыі называў паліцаяў "бобікамі", што можа пацвердзіць любы чалавек, які тую акупацыю перажыў. Не з бальшавізмам яны змагаліся, а з безабароннымі людзьмі — разам з немцамі палілі вёскі, былі аховай у канцлагерах, і аховай жорсткай, нялюдскай.

Вось адна толькі рысачка, якую прыводзіць Алесь Адамовіч у сваёй дакументальнай аповесці "Нямы", апублікаванай у пасмяротным томе "Vixi!"; былы вязень канцлагера ў Азарычах распавядае, як прывозілі ў канцлагер ежу: "Калі прыходзіла машына, паліцаі кідалі ў галодны натоўп падмёрзлыя боханы хлеба, стараючыся абавязкова пацэліць камунебудзь у галаву. "Бураковымі" гранатамі — проста ў твар, весяліліся, забаўляліся". І такіх рысачак можна прывесці безліч. Я, напрыклад, на свае вочы бачыў, як перад чарговай крывавай акцыяй у мінскім гета каля яго збіраўся цэлы абоз падвод, прыехаўшых з навакольных вёсак — гэта паліцаі загадзя паведамлялі сваім родзічам, што ў гета адбудзецца акцыя, дык каб пад'ехалі за жыдоўскім дабром. І грузілі потым на падводы старэнькую, паточаную шашалем мэблю яўрэйскай галоты, ейныя транты... І гэта — жаўнеры? Ці ўсё-ткі "бобікі"?

Справа не ў тым, які рэжым, сталінскі ці гітлераўскі, быў меншым злом. І хоць увогуле няма паміж імі прынцыповай розніцы, хоць і той і другі былі жорнамі аднаго млына, паміж якімі апынуўся народ, *на той час* глыбінны характар вайны вызначала не сталіншчына, а супраціў народа *іншаземнай навале*, яго бітва за сваё не толькі гістарычнае, а проста фізічнае існаванне. Бо нацысты былі нелюдзі паслядоўныя і педантычныя і свае планы ліквідацыі не толькі яўрэйства, але ў перспектыве і славянства, калі не ў печах крэматорыяў, што, дарэчы, таксама прадугледжвалася, дык шляхам анямечвання, мелі намер здзейсніць да канца.

Варта нагадаць некаторым сённяшнім маладзёнам, што ўсё гэта было *даказана* на міжнародным судовым працэсе ў Нюрнбергу, дзе судзілі галоўных нацысцкіх ваенных злачынцаў. У 41-м народ адчуў гэта інстынктам самазахавання, адразу разгледзеў у германскім фашызме звера не менш страшнага, чым свой, так бы мовіць, хатні. Ды гэта іншаземны звер і не хаваў сваёй натуры, першыя ж яго крокі па нашай зямлі былі крывавыя, нялюдскія — адны здзекі з ваеннапалонных чаго вартыя! Зноў жа на свае вочы бачыў я — у чэрвені—ліпені 41-га адзінаццацігадовы хлопчык, як палонных гналі, што скаціну, білі кіямі і прыкладамі, бачыў, як канваіры раструшчвалі ботамі хлеб і бульбу, пакладзеныя на дарогу перад калонай кабетамі, з рогатам перакульвалі, адфутбольвалі ў бок вёдры з вадой, а калі хто з палонных нагінаўся, каб ухапіць кавалачак хлеба ці бульбіну, укленчваў, каб глынуць з лужыны, яму стралялі ў патыліцу...

А шыбеніцы на вуліцах Мінска ў першыя ж дні акупацыі? А правілы акупацыйнага рэжыму, калі за парушэнне нават самага дробязнага параграфу пагражаў расстрэл? Не, панове, з гэтым іншаземным зверам трэба было біцца насмерць. І што б там ні прывяло некага на бок акупантаў, на той час гэта было здрадай. А самае галоўнае, — і тут асноўная памылка тых, хто глядзіць на Вялікую Айчынную як на вайну не нашу, чужую нам вайну паміж двума тыранамі, хто цалкам апраўдвае беларускіх калабарантаў, — нельга вырываць Вялікую Айчынную з агульнага кантэксту другой сусветнай вайны, з кантэксту глабальнай бітвы з германскім фашызмам, які ў той гістарычны момант быў галоўнай пагрозай будучыні чалавецтва. Таму біўся з Гітлерам увесь свет, усе вялікія заходнія дэмакратыі — англійская, французская, уся акупаваная немцамі Еўропа, амаль увесь амерыканскі кантынент на чале з ЗША. Як можна на гэта не зважаць?

І, дарэчы, заходнія дэмакратыі сваіх калабарантаў па галоўцы не гладзілі! Прозвішча аднаго з першых калабарантаў, нарвежскага прэм'ер-міністра Квіслінга стала сінонімам здрады, як імя Юды. Пасля вайны Нарвегія расстраляла Квіслінга, Францыя расстраляла прэм'ера калабаранцкага ўрада Петэна Лаваля і пасадзіла ў турму былога свайго нацыянальнага героя, маршала Пэтэна — за тое, што хаўруснічаў з Гітлерам. Пакаралі калабарантаў і ва ўсіх астатніх вызваленых краінах Заходняй Еўропы. Так што няма чаго пускаць слязу замілавання нашымі "бобікамі" розных рангаў.

Ды прайшло пяцьдзесят пяць гадоў! І немагчыма, ненатуральна і сёння жыць адной толькі былой нянавісцю, былой непрымірымасцю да ўсіх тых, хто ў гады вайны па тых ці іншых прычынах апынуўся на нямецкім баку барыкады, асабліва да тых, хто заблукаў, разгубіўся, трагічна памыліўся. А калі казаць пра пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, кампазітараў, якія ў той ці іншай ступені былі звязаныя з калабарацыяй, трэба мець на ўвазе простую рэч: творы не нясуць адказнасці за ўчынкі іх аўтараў, творчасць таго ці іншага пісьменніка, паэта, мастака, кампазітара не можа быць назаўсёды закрэслена нейкім фактам яго асабістай біяграфіі. Сапраўдная літаратура, паэзія, мастацтва, наогул культура непадзельная на "чыстыя" і "нячыстыя", на "нянаскія" і "наскія".

Усе таленавітыя творцы наскія — і Аркадзь Куляшоў, і Наталля Арсеньева, і Аляксей Пысін, і Ларыса Геніюш, і Янка Брыль, і Янка Запруднік, усе дзеці адной маці — Беларусі, толькі лёсы ва ўсіх розныя, дарогі розныя. Але хоць і розныя — на адной паляне сышліся, скрыжаваліся, перакрыжаваліся. І паляна тая — агульнабеларуская літаратура, паэзія, мастацтва, музыка — вышэй за *савецкасць*, таксама як і за *антысавецкасць*. Ды ў тым жа і справа, што за антысавецкасць у нашай краіне па-ранейшаму б'юць і бэсцяць. У тым ліку і за яе "праявы" ў ацэнцы вайны, у падыходзе да такіх далёкіх, але ўсё яшчэ гарачых, шугаючых полымем у твар падзей. Адкідваецца, сустракаецца ў штыкі рознабаковая, неадназначная размова пра вайну, патрабуецца, каб на батальным палатне, якое яе адлюстроўвае, не было аніводнага змрочнага мазка, адны толькі мажорныя фарбы, бляск параду пераможцаў. Патрабуецца, каб не паказвалі другі, адваротны бок той нашай вайны, усё тое жорсткае, нялюдскае, што было і ў нашых шэрагах у дачыненні да ўласнага народа.

Дзіўна! Ва ўсім свеце, у тым ліку і па ўсіх каналах расійскага ТВ, паказваліся і паказваюцца сотні дакументальных фільмаў пра Вялікую Айчынную, у якіх нічога не замоўчваецца, у якіх "обнажаются" і тыя язвы, тыя выключна *савецкія* хваробы свядомасці і душы, якія зарабілі шлях да Перамогі яшчэ больш цяжкім і пакутлівым. Але варта загаварыць пра тое ж з беларускага тэлеэкрана, як на цябе, нібы крыклівыя чайкі на рыбу, накідваюцца ахоўнікі "чысценькай", "адзіна правільнай праўды" пра вайну.

Так было і з маім дакументальным фільмам-маналогам "Пасля Перамогі", паказаным у свой час па БТ (рэжысёр Валерый Жыгалка). Ахоўнікі "адзіна правільнай праўды" прыкінуліся, быццам у фільме нічога не сказана пра гераізм і самаахвярнасць партызан і падпольшчыкаў і ўхапіліся выключна за "негатыў", за тое нядобрае, нялюдскае ў партызанскай вайне, пра што, вядома, у фільме таксама было сказана, залямантавалі, што аўтар, акрамя "негатыву", нічога не бачыць, малюе партызан толькі чорнай фарбай, выстаўляе іх марадзёрамі, рабаўнікамі, якія забіралі ў сялян кароў і свіней, хлеб і коней, боты і адзенне. На самой жа справе нічога такога не было, бо партызаны, як вядома, харчаваліся святым духам, а боты і адзенне віселі для іх на дрэвах. Неяк нават няёмка даказваць, растлумачваць дарослым людзям, што партызаны — не рэгулярная армія, што ніхто ім нічога не пастаўляў у цэнтралізаваным парадку, хіба што аўтаматы ППШ і міны, ды і тыя ў сціплай колькасці, што харчаваліся, абуваліся і апраналіся яны за кошт беларускай вёскі, без чаго не было б аніякага партызанскага руху, тым больш — масавага. І толькі цалкам недасведчаны чалавек, альбо хлус можа сцвярджаць, што ўтрыманне чатырохсоттысячнага партызанскага войска было для беларускага селяніна радасцю, святам душы, што ўсё аддавалася абсалютна дабравольна, падносілася на талерачцы, як хлеб-соль дарагім гасцям!

*(Працяг на 3-й стар.)*

## Уточнение

В №80 за 4 мая 2001 года допущена ошибка. В проекте платформы кандидата в президенты Республики Беларусь "Белорусское общество нуждается в переменах" в последнем абзаце вместо слова "преемником" следует читать "предшественником".

**Редакция.**





*Пр. Сільвестра.*
*К. Віктара, Станіслава.*

СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ЧЫРВОНАГА КРЫЖА І ЧЫРВОНАГА ПАЎМЕСЯЦА

9 мая — 90 гадоў з дня нараджэння С. І. Ліхадзіеўскага (1911—1979), беларускага паэта і літаратуразнаўца.

МАЙ
**8**
АЎТОРАК

| | |
|---|---|
| ☉ Усход 5.20, Захад 20.54, Даўж. дня 15.34 | ○ Поўня 7 мая, Захад 6.34, Усход 22.17 |

НАВІНЫ

## Беларускія нафтавікі ў Ненецкай аўтаномнай акрузе

**Беларускія нафтавікі ў бліжэйшы час прыступяць да геалагічнага вывучэння месцараджэнняў нафты на тэрыторыі Ненецкай аўтаномнай акругі Расійскай Федэрацыі.**

Гэтую работу будзе праводзіць сумеснае беларуска-расійскае прадпрыемства ў форме таварыства з абмежаванай адказнасцю "Ненецка-Беларуская нафтавая кампанія" (НБНК), якая ў сакавіку 2001 года атрымала ліцэнзію на геалагічнае вывучэнне, пошук і ацэнку месцараджэнняў вуглевадароднай сыравіны Лігінскага ўчастка нетраў.

Паводле інфармацыі крыніцы ва ўрадзе, ВА "Беларуснафта" даручана скласці праекты па зборы і аналізе геолага-геафізічнага матэрыялу на Лігінскім участку, а таксама праекты палявых сейсморазведачных работ на Лігінскай структуры і бурэння пошукавай свідравіны.

Акрамя гэтага, ад "Ненецкай нафтавай кампаніі" беларускім нафтавікам паступіла прапанова выканаць пробную эксплуатацыю нафтавых свідравін яшчэ аднаго месцараджэння — Лыдушорскага.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА.**

## Вучаць бяспечнаму сексу

**Міжнародная грамадская дабрачынная арганізацыя "Надзея-экспрэс" абнародавала першыя высновы па выніках падрыхтоўкі валанцёраў-лідэраў для навучання равеснікаў ахове і паляпшэнню рэпрадуктыўнага здароўя.**

Гэтая праграма дзейнічае ў рамках праекта "Інфармацыя і паслугі для падлеткаў і моладзі ў галіне аховы рэпрадуктыўнага здароўя" са жніўня 2000 года. Яе задача — навучыць студэнтаў перадачы ведаў па бяспечных сексуальных паводзінах у сваім коле. Удзельнікамі адукацыйных семінараў сталі студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.

Як сведчаць арганізатары праекта, вопыт падрыхтоўкі лідэраў для адукацыйнай работы з равеснікамі (peer-education) у Беларусі вельмі бедны і сканцэнтраваны ў рамках недзяржаўных арганізацый, якія рыхтуюць валанцёраў, у асноўным арыентуючыся на ўласны вопыт; абмен інфармацыяй паміж арганізацыямі практычна адсутнічае. У сувязі з гэтым прадстаўнікі "Надзеі-экспрэс" плануюць стварэнне адзінага рэсурсна-метадалагічнага цэнтра па пытаннях peer-education. У ім будуць назапашвацца інфармацыя аб арганізацыях і спецыялістах, уцягнутых у працэс навучання равеснікаў равеснікамі, праграмы і методыкі навучання, сцэнарыі мерапрыемстваў і іншая карысная інфармацыя. Для палавога выхавання моладзі гэты від навучання асабліва важны, паколькі вядома, што падлеткі аддаюць перавагу атрыманню ведаў пра секс менавіта ад равеснікаў.

**Святлана НЯСТРАХАВА.**

## Мастака Дзмітрыя Іваноўскага высяляюць з майстэрні

**Гродзенскі мастак Дзмітрый Іваноўскі, старшыня таварыства вольных майстроў і актывіст мясцовай арганізацыі БНФ "Адраджэнне", атрымаў прадпісанне ад жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 5 горада Гродна, згодна з якім ён вымушаны да 10 мая выселіцца са сваёй творчай майстэрні.**

У сваім прадпісанні ЖЭС абапіраецца на ўказ прэзідэнта Беларусі № 302 ад 12 жніўня 1996 года. У адпаведнасці з гэтым указам, Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт выключыў мастака са спісаў уладальнікаў творчых майстэрняў, якія карысталіся льготамі на арэндную плату. Цяпер замест арэнднай платы ў памеры 20—25 тысяч рублёў, мастаку неабходна будзе плаціць суму, блізкую да 160 долараў ЗША ў эквіваленце штомесяц, што з'яўляецца для яго абсалютна непрымальным.

Іваноўскі ўпэўнены, што рашэнне аб выключэнні яго са спісаў на льготную арэнду звязана з яго актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Дзмітрый Іваноўскі, акрамя свайго прафесійнага занятку, з'яўляецца штогадовым спонсарам некалькіх гродзенскіх фестываляў: Фестывалю творчай моладзі "Песня над Нёманам", Фестывалю нацыянальных абрадаў і Фестывалю нацыянальных культур. На працягу сваёй творчай дзейнасці Дзмітрый Іваноўскі правёў 38 персанальных выставаў, 26 з якіх — па-за межамі Беларусі. Быў неаднаразова ўзнагароджаны граматамі і дыпломамі, апошнія два з якіх былі ўручаны мастаку ад імя аблвыканкама і гарвыканкама ў 2000 годзе "За актыўны ўдзел у культурным жыцці горада і спонсарства".

Дзмітрый Іваноўскі заявіў карэспандэнту БелаПАН, што "дзеянні ўлад, скіраваныя на маё высяленне з майстэрні, з'яўляюцца лепшай адзнакай маёй творчай дзейнасці, а гэта яшчэ больш зацвярджае мяне, што я раблю нешта вартае для Беларусі. Другога рашэння ад сённяшняга рэжыму я і не чакаў".

**Павел МАЖЭЙКА.**

## Ленин фонит

В Воронеже у памятника вождю Октябрьской революции В.И.Ленину радиационный фон выше, чем в среднем по городу. Правда, если отойти от пьедестала метров на 25, уровень радиации снижается до общегородского. Специалисты объясняют, что причина некоторого повышения радиации в черном граните, из которого сделан постамент.

**На снимке:** *измерение уровня радиации у памятника.*

ПЕРЕПИСКА

*24 марта с.г. на страницах "Народной воли" была напечатана статья "Хищники увозят лес". Ее автор — экс-фермер из Вилейского района С.Лешкович. Он высказал обеспокоенность уничтожением лесных богатств.*

*Сегодня ему оппонирует руководитель Минского производственного лесохозяйственного предприятия М.Амельянович.*

# Лес рубим по плану

Рассмотрев статью С.Лешковича "Хищники увозят лес", помещенную в Вашей газете, Минское производственное лесохозяйственное объединение сообщает следующее.

Весь комплекс работ лесохозяйственные предприятия — лесхозы выполняют в строгом соответствии с материалами лесоустроительного проектирования. При проведении лесоустройства специалистами предприятия "Белгослес" проводится натурное обследование всех лесов и на этой основе составляется проект всех хозяйственных мероприятий на предстоящий 10-летний период работы. При этом такие мероприятия, как рубки главного пользования, рубки ухода за лесом, санитарные рубки намечаются конкретно по каждому лесному выделу.

Расчетная лесосека Вилейского лесхоза по главному пользованию составляет 92,5 тыс.куб.м, в т.ч. по хвойному хозяйству — 52,2 тыс.куб.м. За 2000 год она использована в целом на 84,4%, т.е. остались невостребованными 14,4 тыс.куб.м лесосечного фонда.

Общий объем заготовленной ликвидной древесины по лесхозу за 2000 год составил 167,9 тыс.куб.м, в т.ч. деловой — 90,6 тыс.куб.м. Из общего объема деловой древесины на рубках главного пользования заготовлено 55,1 тыс.куб.м, рубках ухода за лесом — 26,6 тыс.куб.м и прочих рубках — 8,9 тыс.куб.м. Объем деловой древесины хвойных пород составил 74 тыс.куб.м, в т.ч. на рубках главного пользования — 39,1 тыс.куб.м и рубках ухода — 16,8 тыс.куб.м.

В соответствии с планом отпуска древесины в 2000 году Вилейскому лесхозу разрешалось реализовать через торговые аукционы 13,2 тыс.куб.м лесосечного фонда. Фактически было реализовано 2,5 тыс.куб.м лесфонда. При этом стоимость 1 куб.м реализованной древесины составила 8,4 тыс.руб.

По состоянию на 1 января 2001 года остатки нереализованной древесины, заготовленной по бюджетной деятельности, составили в лесхозе 15,8 тыс.куб.м, в т.ч. 2,9 тыс.куб.м деловой древесины. Кроме этого, на данный период имелось в наличии 823 куб.м хозрасчетной деловой древесины, а также 669 куб.м пиломатериалов, из них 421 куб.м обрезных.

В 2000 году Вилейским лесхозом, в соответствии с доведенным заданием, на экспорт было поставлено 675 куб.м пиломатериалов и 8582 куб.м древесины в круглом виде (а не 277.788,71 куб.м, как указано в статье).

Фанерное сырье в минувшем году на экспорт лесхозом не поставлялось. Велись лишь поставки его Борисовскому ДОКу в соответствии с доведенным лесхозу заданием.

Поставка продукции на экспорт позволила лесхозу обеспечить решение экономических вопросов. При этом стоимость 1 куб.м пиломатериалов в среднем составила 82,8 доллара США, а круглых лесоматериалов, представленных тонкомерной мелкотоварной древесиной, — 20 долларов, что в два раза выше цен внутреннего рынка.

Упоминаемому в заметке Вилейскому ДОКу в 2000 году в установленном порядке из фонда облисполкома через ГПТО "Промышленник" было выделено 1650 куб.м лесосечного фонда по главному пользованию и 100 куб.м пиловочника из рубок ухода. Из выделенного лимита лесосечного фонда потребителем не востребовано 400 куб.м.

Поэтому утверждение автора статьи о том, что причиной бедственного положения Вилейского ДОКа является поставка лесхозом древесины на экспорт является необоснованной, так как в круглом виде поставляется на экспорт только мелкотоварная древесина, не пользующаяся спросом на внутреннем рынке. Более того, с 1 декабря 2000 года Министерством лесного хозяйства республики была разрешена лесхозам до конца года реализация древесины платежеспособным потребителям без каких-либо ограничений. Задолженность Вилейского ДОКа перед лесхозом по состоянию на 1 января 2001 года составляла 8 млн. руб.

Вокруг д.Забродье (квартал №86, вторая группа лесов) в плановом порядке велись работы по уходу за лесом вне пределов водоохранной зоны, не требующие согласования со службой охраны природы. Проводилось прореживание в сосновом насаждении возраста 50 лет с интенсивностью 20 процентов. Технология проведения данного вида рубки существенного влияния на живой напочвенный покров не оказывает.

Вопросы использования лесных ресурсов области постоянно находятся на контроле налоговых органов, лесохозяйственного объединения и областного комитета природных ресурсов и охраны окружающей среды. Налоговыми органами области в 2000 году проверены все лесхозы, леспромхозы и многие прочие лесозаготовители. Только с августа по декабрь прошлого года изучена проблема использования ресурсов в 87 субъектах хозяйствования. По итогам выявленных нарушений с виновных взыскано в бюджет более 6 млн. руб.

Материалы проверок направлялись объединению для принятия необходимых мер воздействия. Был издан приказ, по которому виновные должностные лица лесхозов привлечены к ответственности.

Объединением за прошедший год проведено 10 ревизий производственной и финансово-хозяйственной деятельности лесхозов. Службами охраны природы в истекшем году проведено 193 проверки. В текущем году планируется проверить состояние во всех деревообрабатывающих частных цехах, из которых уже изучено соблюдение природоохранного законодательства в 25 из них в Березинском, Логойском, Молодечненском, Минском, Любанском и некоторых других районах.

**М.АМЕЛЬЯНОВИЧ,**
**генеральный директор Минского производственного лесохозяйственного объединения.**

## Марш пратэсту ва Уруччы

*Да позняга вечара працягваўся 4 мая сход жыхароў сталічнага мікрараёна "Уручча-2". Ён быў арганізаваны мясцовымі актывістамі незарэгістраванай грамадскай ініцыятывы "Рабочая самадапамога".*

Каля тысячы чалавек, што жывуць па вуліцы Русіянава, а 20-й гадзіне сабраліся каля аднаго з дамоў, каб выказаць пратэст супраць узвядзення на дзіцячай спартыўнай пляцоўцы элітнага жылля. Да іх прыехалі прадстаўнікі Мінгарвыканкама, адміністрацыі Першамайскага раёна і будаўнічай фірмы "Hyperkom Development", што вядзе будаўніцтва. Каб прадухіліць пераўтварэнне шматлюднага сходу ў несанкцыянаваны мітынг, чыноўнікі прапанавалі перанесці сустрэчу ў будынак бліжэйшай сярэдняй школы. На некалькі соцень метраў выцягнулася людская калона, якая прайшла да школы па жылых кварталах Уручча. Супрацоўнікі міліцыі, што ахоўвалі парадак, назвалі гэты марш пратэсту самым масавым за ўсю гісторыю існавання гэтага мікрараёна.

Першы намеснік кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёна Леанід Голуб абвясціў на сходзе, што 4 мая раённыя ўлады вырашалі прыпыніць будаўніцтва. Гэтае пытанне мяркуецца вынесці на разгляд кіраўніцтва Мінгарвыканкама, які ў свой час ухваліў спрэчны будаўнічы праект. Па прапанове ўдзельнікаў сходу, на якім выступіў лідэр "Рабочай самадапамогі" Сяргей Антончык, вылучана ініцыятыўная група ад жыхароў раёна, якія будуць браць удзел у гэтым разглядзе. У выпадку невыканання Мінгарвыканкамам рашэння сходу яго ўдзельнікі паабяцалі звярнуцца да больш актыўных форм пратэсту.

**Антон ДРОНЧАНКА.**

## Капитан милиции свой рекорд посвятил независимой прессе

4 мая 2001 года, в Минском Дворце искусств на выставке "Пресса в Беларуси" известный белорусский силач Вячеслав Хоронеко установил свой 100-й рекорд: за 10 минут 100 раз поднял 40-килограммовую пивную бочку.

Рекорд посвящен газете "Комсомольская правда в Белоруссии". Неравнодушен белорусский силач к независимой прессе: предыдущее достижение этого же атлета по поднятию такой же пивной бочки составило 75 раз и было посвящено этой же газете — ее 75-летию.

Рекорды легко не даются: к сотому подъему пот с лица Вячеслава Хоронеко лил ручьем. Ведь каждую минуту надо было сделать десять подъемов. Последняя минута была самой тяжелой. После 95-го подъема казалось, что спортсмен сдался — было видно, что сил у него совсем нет. Но воля победила: за оставшиеся секунды под аплодисменты присутствующих атлет выполнил эти пять подъемов. При собственном весе 85 килограммов за 10 минут поднял четыре тонны.

Вячеславу Хоронеко 40 лет. Он — капитан милиции, преподаватель академии МВД. У него приятная улыбка, которая никак не вяжется со ставшими за последние семь лет привычными злыми лицами омоновцев и спецназовцев, орудующих дубинками по спинам мирных белорусских граждан.

Офицер завершил свое выступление стихами, посвященными женщине. Он читал их сидя на шпагате. Далеко не каждый сможет повторить подобное.

Вячеславу Хоронеко вручили книгу "Рекорды планеты", где на 41-й странице упоминается и его фамилия.

Пиво белорусской фирмы "Оливария" из рекордной бочки показалось мне особенно вкусным.

**Валерий ЩУКИН.**



Галіна Кнорава робіць прыгожымі нашы кватэры. Яна — маляр. Працуе ў Гомельскім будаўнічым упраўленні №107.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

СКАНДАЛ

## Бей барабан. До конца

**Владимир ДОВЖЕНКО**

В №78 за апрель мы опубликовали интервью "Мне все по барабану" со спортивным журналистом БТ Алексеем Довалем, в котором он поделился своими мыслями о работе коллег, стиле и методе нового руководства, затронул вопросы профессионализма и даже права.

Разговор получился острым, в какой-то мере нелицеприятным для "вертикали" национального телеканала, хотя, откровенно говоря, тон публикации был предопределен заранее: в начале года Алексея отстранили без видимых на то причин от работы в эфире, закрыли еще ранее его авторскую программу для любителей футбола "Третий тайм", а также лишили права любого участия в создании передач "Стадион", "Спорт-курьер", к которым до этого он имел самое непосредственное отношение.

Приказом первого зампредседателя Белтелерадиокомпании Егора Рыбакова журналист был переведен в так называемую Дирекцию перспективного вещания, посажен, что называется, на голый оклад. Вполне объяснимо, что такая ситуация не устраивает его лично. Кстати, почти в таком же положении оказались еще до полутысячи творческих работников на Макаенка, 9, причем по разным причинам. Одна из главных — нелояльность к существующему режиму. Лишь немногие, точнее, единицы, нашли в себе смелость принародно высказать свои мысли.

В последнее время более или менее терпимое отношение к родному телевидению, державшемуся еще как-то на плаву, дало огромный крен к отметке "неуд.", и это мнение о нем стало, можно признать, почти общенародным. Кроме, естественно, определенной группы лиц, желающей, вероятно, видеть его именно таким, и известной части населения, которой, образно говоря, все по барабану.

Так вот, мы ожидали реакцию на справедливое и смелое замечание, но случившееся превзошло все ожидания. Впервые за более чем полувековую историю своего существования так оконфузилось заведение на улице Макаенка. В помещении БТ был арестован журналист, на которого надели наручники и под вооруженной охраной препроводили в РОВД Первомайского района г.Минска. Как вы поняли, этим человеком оказался Алексей Доваль. Предоставляем ему слово:

— 2 мая вечером в районе 21.30 я зашел на студию (приехал с коллегами с футбольного матча в Борисове), чтобы забрать в кабинете свои личные вещи. Дежурный милиционер взял мое удостоверение, долго крутил его, рассматривал и неожиданно сказал: "А что ты вообще здесь появляешься? Может, тебе вовсе не стоит приходить на работу? Ты все равно здесь работать не будешь. Сейчас я тебя не могу пропустить, ты пьян". Меня это обидело, я забрал удостоверение и пошел к выходу.

Милиционер вслед мне начал сыпать оскорбительными словами. Самыми приличными из которых можно считать "понажираются тут всякие... и ходят". Уже почти на выходе я повернулся и ответил: "А кто вам дал такое право оскорблять меня? Вы что — хозяин жизни?". Милиционер, словно ожидая, тут же бросился ко мне, начал хватать за руки, порвал рубашку. А тут подоспели еще двое постовых, на меня посыпались удары. Скрутили, надели наручники.



*Момент задержания. Доваль в наручниках.*

И тут же "случайно" в фойе появились наши руководители: Виктор Чикин и Егор Рыбаков. Под их диктовку были написаны рапорта, схожие каждый друг с другом. Там указывалось, что я, находясь в пьяном виде, бросался на работников милиции, угрожал им физической расправой. Помню, Чикин сказал: "Вот пусть посидит... Нечего интервью во всякие газеты давать".

Тут же приехала вооруженная охрана, и меня повезли в РОВД. Там мне отказали в предоставлении медицинского освидетельствования для установления факта употребления алкоголя и состояния опьянения и закрыли в камере (2x2), где уже было человек 9. В заточении я провел всю ночь, следующим утром после 10.00 меня освободили, предварительно выписав штраф в размере 5 тысяч рублей.

Я написал заявление на имя прокурора района о моем неправомерном задержании, применении ко мне физической силы, прошел медосвидетельствование (естественно, наличие алкоголя и этилового спирта в крови не было обнаружено), снял побои (кровоподтеки на спине и руке, следы от наручников, вывих плеча). По данному факту начато расследование. Думаю возбудить уголовное дело. Меня не так угнетает, что я пострадал физически. Подозреваю, что руководство БТ было причастно к этой акции. Им, вероятно, очень хочется уволить меня с позором, чтобы другим было неповадно. Я ведь высказал свое отношение к существующим на телевидении проблемам. Кому это понравится?

**От автора. Можно по-разному оценить произошедшее, но в данном случае все кажется уж очень странным. Особенно действия руководства. Слишком много видится мне совпадений и уж очень явственно торчит из кустов "рояль". Или барабан.**

ПРОТОКОЛ № 4059
медицинского освидетельствования для установления факта употребления алкоголя и состояния опьянения

«03» мая 2001 г.

1. Фамилия, имя, отчество Доваль Алексей Николаевич
Возраст (год рождения) 1974
Где и кем работает НГТРК, редактор

14. ЗАКЛЮЧЕНИЕ (состояние обследуемого квалифицируются в формулировках, предусмотренных в п. 13 действующей инструкции Минздрава РБ о порядке медицинского освидетельствования): Трезв.

# ПАМЯТНИК В КУРОПАТАХ

## Это наш долг и наше покаяние

Общественное объединение "Белорусская ассоциация жертв политических репрессий", прочитав статью И.Кузнецова "Куропаты: следствие закончено?" в "Народной воле" за 18.04.2001 г., берет на себя организацию сбора средств на сооружение памятника жертвам политических репрессий 1920—1950 годов в Куропатах. С обращением о строительстве памятника мы трижды письменно обращались к президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко. Но, в нарушение своего же указа, Александр Григорьевич ответа так и не дал.

Мы, перешагнув порог нового века, нового тысячелетия, не имеем права не помнить о жертвах большевистского произвола, который начался в 1917 году и продолжался несколько десятилетий. К всеобщему покаянию зовут души невинно убиенных. Непонятно, почему до сих пор нет громкого возмущения и негодования общественности в отношении Куропат? Почему безропотно народ допустил и терпел десятки лет кровавый режим насилия? И самый страшный вопрос: почему вместе с простыми людьми до сих пор молчат представители духовенства? (Как известно, расстреляны и замучены тысячи священников, ксендзов и верующих)

Виноваты не только вожди. В той или иной степени повинны и мы: дали себя одурачить, запугать, затаились, смирились, покорно терпели унижение, беззаконие и насилие. Искупление этой общей нашей вины перед Беларусью, памятью жертв только в одном — каждый из нас должен ощутить личную ответственность за ее прошлое, настоящее и будущее. Должен понять, что массовый террор никогда не мог бы состояться, если бы не наша пассивность, обернувшаяся молчаливым соучастием в убийствах миллионов ни в чем неповинных людей, в своей стране, своим правительством.

Мы не должны забывать о многих миллионах безвинных жертв. Разжечь негасимую лампаду памяти во имя успокоения их душ — наш общий и безотлагательный долг. Иначе это будет означать забвение. Забвение Памяти означало бы вторую смерть этих людей. Мы должны не позволить им вновь покинуть нас. Память является не только победой над временем, но также триумфом над несправедливостью. Хотя у каждого человека есть право на отличие, ни у кого нет права на безразличие — безразличие к состраданию, к Памяти своих предков...

Наступило время покаяться обществу перед невинными жертвами, чтобы на нашей земле навсегда воцарились мир и любовь. Возведение памятника в Куропатах — это не только долг перед пострадавшими, но и обязанность предостеречь молодое поколение, чтобы не повторились мрачные страницы нашей истории в будущем.

Только вместе, общими усилиями, мы сможем не допустить повторения прошлого. Память нужна не мертвым, память нужна живым...

Мы обращаемся к правительству, представителям местных властей, депутатам всех уровней, духовенству, представителям посольств, аккредитованных в Республике Беларусь, интеллигенции, писателям, ученым, коммерческим структурам, банкам, частному бизнесу, партиям, правозащитным организациям, организациям международного уровня и ко всем, кто пострадал сам, кто сочувствует жертвам сталинских репрессий, кто неравнодушен к страданию других, оказать посильную помощь в сборе средств на строительство памятника в Куропатах.

Наш р/счет №3015000000168 в Минском филиале №520 АСБ "Беларусбанк", код 253, валютный счет №3015205545019 в АКБ "Белбизнесбанк" г.Бобруйска (с пометкой на "строительство памятника в Куропатах").

Телефон для связи: **(017) 237-65—44, т/ф (02251) 6-89-95.**

**А.М. БАКАЧ,**
**президент ОО "Белорусская ассоциация жертв политических репрессий", член комиссии при Бобруйском городском Совете депутатов по оказанию содействия в обеспечении прав жертв политических репрессий 20—80-х гг. и увековечении их памяти, директор музея Памяти жертв политических репрессий.**

Фото IREX/ProMedia.

**P.S.** *ОО "БАЖПР" работает с 1992 г. Благодаря ее работе сотни людей получили справки о реабилитации, компенсацию за имущество, узнали места расстрелов своих родных. Силами организации построены памятники жертвам политических репрессий в Бресте, Бобруйске, дер.Боровой и Продвино Бобруйского района. 29 апреля 1995 г. при Бобруйском городском отделении открыт единственный в РБ Музей Памяти. Готовится к открытию второй отдел Музея. Решается вопрос о посадке аллеи Памяти.*

*У нас есть огромное желание построить памятник и даже имеются опытные строители. Мы приложим все силы для сбора достаточного количества средств как в Республике Беларусь, так и за рубежом. И надеемся в скором будущем увидеть построенный памятник в Куропатах.*

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

## Ответ на письмо... в мусорном ящике

За годы президентства в нашей стране не только ликвидирована выборность руководителей городов и районов, но и возможность для граждан обращаться к назначенцам-вертикальщикам.

"Переписка с вами прекращена" — вот ответ, который часто получают заявители от всех ветвей власти: исполкомов, судов, милиции, прокуратуры, администраций учреждений и предприятий — после "победы" А.Лукашенко в 1996 году, когда были внесены изменения в закон об обращениях граждан.

**Из письма в редакцию лепельчанки Галины Тарасевич:**

"На мое заявление к директору Аверьянову В.И. ответа не получила, а на 40-й день письмо принесли домой рабочие, которые нашли его в туалете возле мусорного ящика.

За разрешением вопроса обратилась в горисполком к председателю Мисюра Н.Н. и услышала в ответ: "Вы свободны".

Обратилась в приемную президента по Витебской области. Ответ аналогичный: "Вы свободны".

**Выход — поменять закон "Об обращениях граждан". Только вот вряд ли это удастся сделать при нынешнем правителе.**

**Валерий ЩУКИН.**

## Побит рекорд Керенского

### Истинная цена коробка спичек в Беларуси 12 миллионов рублей.

В 1917 году в России, когда страной управлял Керенский, царили разруха, голод и бесхозяйственность. Коробок спичек стоил 1 миллион рублей... Мы умудрились обогнать тогдашнюю матушку Россию, где, к слову, никогда не было деноминации рубля.

В Беларуси за последние 7 лет — время правления одного президента — произошло уже две деноминации рубля, то есть отняли от рубля шесть нулей (миллион), чего не было в истории еще ни одного государства. Значит у нас, если не считать деноминацию рубля, коробок спичек сейчас стоит 12 миллионов рублей. Беларусь побила все мировые рекорды. Может, стоит внести его в Книгу рекордов Гиннесса. Правительству надо только принять соответствующее решение...

**Н.В., пенсионер.**

Минск.

КОНКУРС!

## Вас приглашает Париж...

По инициативе Французского Альянса г.Парижа Бюро по сотрудничеству в области французского языка Посольства Франции в Республике Беларусь со своим белорусским партнером — Белорусской Ассоциацией преподавателей французского языка проводят в Минске "Европейский конкурс французского языка-2001". В конкурсе могут принять участие все ученики 9-х, 10-х и 11-х классов средних школ, гимназий и лицеев, изучающие французский язык. Конкурс будет проходить 11 мая в Минском государственном лингвистическом университете.

Участники конкурса должны будут написать сочинение на французском языке на предложенную Французским Альянсом тему. Разрешается пользоваться одноязычным французским словарем.

Победитель конкурса будет приглашен в Париж с 8 по 15 июля 2001 года. Для него будет подготовлена обширная культурная программа. Сроки пребывания не могут быть перенесены. Учащиеся, которые не смогут по каким-либо причинам поехать во Францию в данный промежуток времени, не должны принимать участие в конкурсе.

Для получения дополнительной информации обращаться:

Посольство Франции (Бюро по сотрудничеству в области французского языка).

Александр МАРТИНЕТТИ: **210-28-68.**

Белорусская Ассоциация преподавателей французского языка, МГЛУ,

Светлана Андреевна ШАШКОВА: **236-76-63.**

